**Працягваецца падпіска на «Газету Слонімскую» на жнівень – снежань 1998 года**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 28 (57). Слонім. 9 ліпеня — 15 ліпеня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны


АСОБА нашы землякі

## СЛОНІМЕЦ ЭДУАРД ЛАШКОЎСКІ АБЕДАЎ З КІТАЙСКІМ ПРЭМ'ЕРАМ ЛІ ПЭНАМ

Наш зямляк Эдуард Лашкоўскі атрымаў вышэйшую дзяржаўную ўзнагароду Кітая для замежных грамадзян – ордэн Дружбы. Ордэн яму ўручыў намеснік старшыні Дзяржсавета КНР – Лі. Пасля ўрачыстай цырымоніі яго прыняў сам кіраўнік урада Кітая – Лі Пэн.

Увагай і пашанай Эдуард Лашкоўскі быў адзначаны кітайскімі ўладамі за вялікія заслугі ў развіцці энергетыкі гэтай краіны. Два гады наш зямляк разам са спецыялістамі з Расіі, Украіны, Германіі будаваў у Кітаі цеплавую электрастанцыю.

На мінулым тыдні Эдуард Лашкоўскі наведаў сваіх бацькоў у Слоніме, дзе яны жывуць на вуліцы 17-га верасня. Тут у 1945 годзе Эдуард нарадзіўся, закончыў СШ №5, потым – Мінскі політэхнічны інстытут. Падчас працы ў навукова-праектным інстытуце ён праявіў здольнасці ў праектаванні цеплавых электрастанцый. Мусіць па гэтай прычыне ў 1996 годзе Эдуард Лашкоўскі і быў накіраваны ў Пекін, дзе ўзначаліў групу замежных спецыялістаў на будаўніцтве станцыі.

У Слоніме Эдуард гасцяваў усяго некалькі дзён. Тым не менш ён знайшоў час, каб даць інтэрв'ю карэспандэнту "ГС".

**(Працяг на 3 стр.)**



**На здымку:** Эдуард Лашкоўскі з жонкай абедае з Лі Пэнам

ЗДАРЭННІ

### Добра тое, што добра канчаецца

2 ліпеня ў 7.30 раніцы на праспекце Незалежнасці нечакана ўпаў 30-метровы вежавы кран, што працаваў на будаўніцтве шматпавярховага жылога дома. На шчасце ніхто з будаўнікоў БУ-187 не пацярпеў, акрамя машыніста крана. Мужчына атрымаў лёгкія калецтвы.

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" начальнік БУ Віктар Брайчук, вежавы кран, які належыць Мінскаму ўпраўленню механізацыі № 79, не быў здадзены ў эксплуатацыю. Шматтонная махіна не вытрымала парываў ветру і перакулілася. Мінскія спецыялісты гэты кран разабралі і павезлі ў сталіцу, а замест яго прывезлі другі. Тым часам кампетэнтная камісія праводзіць расследаванне аварыі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**
**Фота Мікалая СУПРУНА**



### За тыдзень – тры пажары

**На мінулым тыдні на Слонімшчыне здарылася тры пажары.**

Як мы ўжо пісалі, 29 чэрвеня ў 5 гадзін раніцы ад удару маланкі загарэўся хлеў жыхара вёскі Чамяры Мікалая Міско. «ГС» стала вядома, што урон у выніку пажару склаў 23,7 млн.рублёў. Гаспадар паспеў выратаваць жывёлу, а пажарныя – частку будынку ад знішчэння.

30 чэрвеня ў вёсцы Вяцeнеўка згарэў датла дом, які належаў Васілю Хомчыку.

Пабудова знаходзілася наводдаль ад вёскі, таму людзі позна заўважылі агонь і не выклікалі своечасова пажарных.

3 ліпеня ноччу загарэўся хлеў жыхаркі Слоніма Кацярыны Куліі коўскай, якая жыве на Спартыўным завулку, 8.

Прычыны пажару высвятляе міліцыя, бо ёсць падставы лічыць, што хлеў нібыта падпалілі.

**Валянцін Чурыла**

НАВІНЫ

### Віншуем!

Саланевіч Ірыне Іванаўне, загадчыцы лабараторыі Слонімскага вінзавода, прысвоена ганаровае званне "Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь".

Гэтага звання яна ўдастоена за шматгадовую плённую працу і значны асабісты ўклад у распрацоўку новых тэхналогій.

***

Начальнік аддзела тэхнічнага кантролю фабрыкі "Гасцінічная мэбля" Фаіна Васільеўна Маркелава ўзнагароджана медалём "За працоўныя заслугі". Гэту ўзнагароду яна атрымала за шматгадовую плённую працу і дасягненне высокіх паказчыкаў у вытворчасці.

***

Благодарственным письмом председателя областного исполкома награждены:

– Богдан Иван Алексеевич – главный зоотехник колхоза им.Суворова,

– Гальго Валентин Николаевич – водитель автомобиля Слонимского лесхоза,

– Кемежук Владимир Павлович – директор совхоза "Победитель",

– Кожемяко Вера Николаевна – учитель начальных классов Мельковичской базовой школы,

– Салейко Иосиф Павлович – директор Слонимского моторемонтного завода.

### Угодкі вызвалення Слоніма

**10 ліпеня Слонімшчына будзе ў чарговы раз адзначаць дзень вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

У гэты дзень, 54 гады назад, савецкая армія, пасля цяжкіх баёў, ачысціла наш край ад акупантаў. З нагоды ўгодкаў гэтай падзеі у пятніцу ў 11 гадзін у цэнтры Слоніма каля брацкай магілы савецкіх воінаў адбудзецца мітынг з удзелам вайскоўцаў і кіраўнікоў горада.

**Сяргей ЁРШ**

### Створана спецгрупа

**Міністр абароны сваім загадам вызначыў вайсковыя падраздзяленні, якія будуць удзельнічаць у ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў, аварый і катастроф.**

Такая спецыяльная вайсковая група створана і ў Слонімскай механізаванай брыгадзе. Яе ўзначаліў намеснік камандзіра брыгады палкоўнік Віктар Вераб'ёў.

З моманту аб'яўлення трывогі ваеннаслужачыя павінны прыбыць да месца здарэння ўжо праз 50 хвілін у рабочы час і праз дзве гадзіны – у выхадны дзень.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ФОТАРЭПАРТАЖ МІКАЛАЯ СУПРУНА

## ЛІПЕНЬ ПАЧАЎСЯ СА СВЯТАЎ...



**Слонімшчына адзначыла свята Дзень рэспублікі. З гэтай нагоды па традыцыі жыхары горада спачатку сабраліся ля помніка загінуўшым воінам, каб ушанаваць іх памяць. Урачысты сцэнарый праходзіў як звычайна: выступілі прамоўцы, прагучаў салют, адбылося ўскладанне вянкоў і кветак. Як не дзіўна, але сярод прысутных ветэранаў было мала.**

**(Працяг на 2 стр.)**



**На здымках:** парадным строем ідуць вайскоўцы Слонімскай брыгады, наш ветэран.

НАВІНЫ

### За шесть последних лет умерло 100 тысяч ветеранов

Председатель Белорусской республиканской организации ветеранов Анатолий Новиков сообщил, что на 1 января 1998 года в стране насчитывалось 156 тысяч бывших фронтовиков, подпольщиков и партизан, еще 100 тысяч участников военных действий умерли за последние 6 лет. В России, к примеру, насчитывается свыше 2 миллионов ветеранов, на Украине около 14 миллионов человек. Эти цифры, помимо ветеранов войны, включают также ветеранов военной службы и труда.

### За один доллар дают 60 тысяч рублей

**На прошедшей неделе (29 июня — 5 июля) курс доллара США по отношению к белорусскому рублю продолжал расти на всех сегментах валютного рынка, за исключением банковского наличного.**

Так на Минской межбанковской валютной бирже курс доллара повысился на 1,6%. Биржевая стоимость немецкой марки увеличилась на 0,5% (с 20.800 до 20.900 рублей), российского рубля – на 1,3% (с 6.000 до 6.080 рублей). Котировка украинской гривны снизилась на 1,2% (с 33.800 до 33.400 рублей). На «черном» рынке Минска котировка американской валюты выросла за неделю на 1,3% (с 58.000 – 59.500 до 59.000 – 60.000 рублей).

**БелаПАН**

ЗДАРЭННЕ

### Выпадак на баранавіцкім мосце

**Днямі ў рэанімацыйнае аддзяленне раённай бальніцы ў непрытомным стане з траўмай галавы быў дастаўлены жыхар Слоніма Я.**

Пацярпеўшага падабрала "хуткая дапамога" у раёне баранавіцкага маста. Высветлілася, што ён хварэе на эпілепсію.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!
З ЛІПЕНЯ
«Газета Слонімская»
БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ У СВЕТ ПА ЧАЦВЯРГАХ

ПО СЛЕДАМ ВЫСТУПЛЕНИЙ "ГС"

# "ЧЕГО БОЯТСЯ ДЕПУТАТЫ?" ГЛАСНОСТИ И ПРАВДЫ

**"Гражданам РБ гарантируется право на получение, защиту и распространение полной, объективной и своевременной информации о деятельности госорганов, общественных объединений, о политической, культурной и международной жизни, состоянии окружающей среды.**

**Государственные органы, должностные лица обязаны давать гражданину РБ возможность ознакомиться с материалами, которые затрагивают его права и обязанности..."**

**Конституция РБ ст. 34**

Как видим, в Основном Законе нашей страны четко и ясно сказано о том, что гражданину РБ гарантируется право на получение, защиту и распространение полной, объективной и своевременной информации. В том числе и с сессии горрайсоветов. Разумеется, через средства массовой информации, зарегистрированные и получившие лицензии в Минюсте Республики Беларусь.

Имеется такая лицензия у "Газеты Слонімскай" (рег. № 947 от 24.03.97). Стало быть, ее издание получило право на жизнь. А читатели газеты, которых насчитывается около семи тысяч человек, хотели бы знать о жизни города и района.

В данном случае я выступаю не в защиту газеты, с некоторыми ее позициями я не всегда согласен, а хочу высказать свое личное мнение по поводу материала В.Володащука "Чего боятся депутаты?" ("ГС" № 22, от 29.05-04.06.98). В материале шла речь о том, что на одной из сессий слонимского горсовета среди прочих вопросов обсуждался вопрос об аккредитации корреспондента "Газеты Слонімскай" на сессиях.

Выясняется, что председатель горсовета и большинство депутатов дружно выступили против аккредитации журналистов этой газеты. Пожалуй, более полно и четко по этому вопросу высказал свою позицию и мнение коллег всеми уважаемый Александр Гулинский. Тогда, в частности, он сказал, что "нельзя допустить, чтобы слова, высказанные тут, становились обсуждением многих слонимчан"... Не больше и не меньше.

С большим уважением отношусь к Александру Александровичу, как к врачу-профессионалу, эрудированному человеку и умелому руководителю. А вот с его мнением, как народного депутата, не согласен. Так чего боятся депутаты? Видимо того, чтобы избиратели через правдивую и объективную информацию не узнали, как и насколько продуктивно на сессиях отстаивает их права, решает проблемы их депутат?

Известно, что подавляющее большинство депутатов, как правило, руководители предприятий, учреждений и организаций. Они приучены не выносить мусора из своей избы. Не так давно обратился в районный отдел статистики и попросил назвать среднемесячную зарплату работников перерабатывающих предприятий (мясокомбината, винзавода, хлебозавода)...

— Эти данные секретные, — ответил ответственный работник статистики.

Выходит, простой смертный лишен вообще права получить информацию. На сессии получить ее из первых уст тоже невозможно. Чиновники, как правило, в данном случае отвечают, что сверху дано указание никаких данных и сведений не давать.

В таком случае спрашивается, для кого пишутся законы? В частности Конституция РБ. Для кого существует Закон РБ "О печати и других средствах информации", многие другие законодательные акты? Именно они гарантируют юридическое право каждого гражданина по первому требованию получать через СМИ полную, правдиво-объективную и оперативно поданную информацию? Почему же тогда это право игнорируют депутаты горсовета, руководители предприятий, учреждений и организации, их подчиненные? Чего они боятся? Видимо, повторюсь, боятся гласности и правды относительно истинного положения дел на своих участках работы? И еще. Видимо, потому, что порой сами являются нарушителями законов, норм морали и нравственности. Примеров из нашей жизни, — хоть отбавляй.

Не об этом ли говорят факты злоупотреблений своим служебным положением депутата горсовета, председателя районного общества инвалидов Анастасии Шляхтенко (об этом «ГС» писала в №23).

Размышляя над возникшей проблемой о не допущении присутствия корреспондента "ГС" на сессиях горсовета, на память пришла арабская пословица. Она гласит: "Если хочешь узнать истину — спроси человека с улицы".

Руководствуясь здравым смыслом, корреспондент "ГС" на улице обратился к прохожим — жителям райцентра с одним вопросом: почему, по их мнению, депутаты не желают, чтобы работу сессий горсовета освещала "Газета Слонімская". Так вот из пятнадцати опрошенных — двенадцать ответили на вопрос прямо и открыто: видимо, депутаты боятся правды, критики. Один из слонимчан так и сказал:

— Вся причина этого, видимо, в том, что вы в своей газете пишете то, что никогда не напишут в "Слонимском вестнике". Это так понятно и просто...

Тираж у "ГС" около семи тысяч. Но в семьях обычно в среднем бывает по 3-4 человека. Стало быть, "Газету Слонімскую" читает более двадцати тысяч человек. А это, представьте себе, более трети жителей города и района.

**Иван ЧУГУЕВ**

ГОРАД *нашы людзі*

# Вулічны музыкант



Музыканта Дзіму (менавіта так ён прадставіўся карэспандэнту "ГС") часта можна ўбачыць у цэнтры горада, дзе ён з натхненнем наярвае на гармоніку. Каля яго ног заўсёды знаходзіцца торбачка, куды прахожыя кідаюць грошы, каму колькі не шкада. Трэба сказаць, што ў сваёй большасці людзі неабыякавыя да мелодый, якія Дзіма выконвае даволі прафесійна.

Для яго гэта не толькі захапленне, але заробак. Бо як ён сказаў, нічога іншага рабіць не ўмее. А да музыкі Дзіма мае здольнасці. Іграць на кларнеце, саксафоне, баяне ён навучыўся сам яшчэ ў дзіцячым доме, хаця спецыяльнай музычнай адукацыі не мае.

Па словах вулічнага музыканта, асаблівых даходаў ад сваёй "працоўнай дзейнасці" ён не мае, але на "хлеб і ваду" хапае. Асабліва яму пашанцавала ў Мінску, дзе Дзіма некалькі месяцаў іграў у падземным пераходзе.

На той час у сталіцы знаходзілася турыстычная група з Германіі. Немцы жылі ў гатэлі побач, таму, праходзячы, яны заўсёды прыпыняліся каля Дзімы і падоўгу слухалі яго вальсы, якіх ён ведае шмат. Больш таго, у сваім рэпертуары Дзіма мае каля дзесяці ўласных вальсавых мелодый. Госці з Германіі былі не толькі добрымі, але і шчодрымі слухачамі, клалі ў яго торбачку буйныя купюры. Дарэчы, пасля мінскай "камандзіроўкі" Дзіма і купіў сабе гармонік. Да гэтага часу ён іграў на акардэоне, які яму часова пазычаў сябар.

Напрыканцы нашай размовы музыкант з жалем адзначыў, што ў Мінску міліцыя яго не хапала, а вось у Слоніме аднойчы нейкі міліцыянер-маёр забараніў яму іграць на гарадскім рынку. Таму цяпер Дзіма весяліць слонімскую публіку ў асноўным на Першамайскай вуліцы, што побач з "Домам гандлю".

**На здымку:** вулічны музыкант Дзіма

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**Фота Мікалая СУПРУНА**

# ЛІПЕНЬ ПАЧАЎСЯ СА СВЯТАЎ...



**Адчувалася, што слонімцы ўвогуле да гэтага свята аднесліся абыякава. Бо як можна патлумачыць той факт, што святочны канцэрт у гарадскім парку, куды потым павінна была пайсці публіка, вядучыя доўга не маглі пачаць з-за адсутнасці гледачоў. Мусіць людзі вырашылі дадатковы выхадны выкарыстаць з іншай мэтай. Відаць, нехта пайшоў па грыбы ці па ягады, каго цікавілі дачныя ўчасткі ды хатнія справы. Гэтаму спрыяла і добрае сонечнае надвор'е.**

(Працяг на 3 стр.)





**На здымках:** на танцавальнай пляцоўцы ў парку адныя спявалі, другія танцавалі.

НАВІНЫ

# Будут новые налоги

**Министерство финансов Беларуси внесло изменения в проект Налогового кодекса (НК) и направило документ на рассмотрение Совета Министров.**

Нынешняя редакция проекта НК содержит серьезные изменения по сравнению с прежней. В частности, в нем подробно регламентированы отношения налогоплательщика и налоговых органов, предусмотрен новый механизм взымания налога на добавленную стоимость. В новом проекте учтены предложения Союза предпринимателей по сокращению части налогов: не предусмотрен чрезвычайный налог, вдвое уменьшены размеры платежей в дорожный фонд, налог на недвижимость заменен налогом на имущество и переведен в разряд местных налогов (его ставка уменьшена также в два раза). В случае их принятия это позволит снизить налоговую нагрузку на производителей, увеличить реальные доходы граждан. Однако доработанный проект НК еще должен пройти процедуру согласования в Совете Министров и администрации президента.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by



Падпісана да друку 8 ліпеня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.700 экз.
Заказ №1995
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

# СЛОНІМЕЦ ЭДУАРД ЛАШКОЎСКІ АБЕДАЎ З КІТАЙСКІМ ПРЭМ'ЕРАМ ЛІ ПЭНАМ

–Кітайцы нас сустрэлі цёпла і радушна, – пачаў нашу размову Эдуард Лашкоўскі. – Пасялілі ў элітным гатэлі, дзе пражыванне аднаго чалавека каштавала каля 2 тысяч даляраў у месяц. Праз некалькі дзён нас прыняў прэм'ер-міністр КНР, Старшыня Дзяржсавета Лі Пэн. Падчас размовы ён падрабязна цікавіўся, хто з нас адкуль прыехаў, а калі дайшла чарга да мяне, то з радасцю адзначыў, што яму вельмі спадабаўся Мінск, дзе ён быў некалькі разоў з афіцыйнымі візітамі.

***— Што прадстаўляе сабой Кітай сёння?***

– Мне давялося жыць у трох гарадах гэтай краіны: Шанхаі, Пекіне і Цінзіне. Сталіца Кітая, Пекін, уражвае сваім размахам пабудоў, выдатнымі аўтамабільнымі дарогамі, безліччу мастоў і тунеляў. Ад вялікай колькасці машын на дарогах часта ўзнікаюць аўтамабільныя "пробкі".

Дарэчы, нас папярэдзілі, каб мы некаторы час не садзіліся за руль аўтамабіля, бо правілы дарожнага руху ў Кітаі істотна адрозніваюцца ад еўрапейскіх. Напрыклад, пры чырвоным святле святлафора, вадзіцель можа паварочваць направа.

Акрамя таго, веласіпедыст мае перавагу перад аўтамабілістам. А паколькі амаль кожны другі жыхар Кітая ездзіць на веласіпедзе, то вуліцы, практычна, поўнасцю заняты веласіпедыстамі.

Пасля кароткага знаёмства з Пекінам мае ўяўленні аб Кітаі, як аб слабаразвітай краіне, развеяліся ўшчэнт. Гэта такая ж развітая краіна, як і многія дзяржавы Еўропы.

Бурнымі тэмпамі там вядзецца будаўніцтва. За два гады, што я знаходзіўся ў Пекіне, там узніклі шматлікія новыя вуліцы з сучаснымі гатэлямі, банкамі, рэстаранамі, з высотнымі будынкамі пад офісы. Разам з тым, кідаюцца ў вочы і кантрасты: побач з небаскробамі, амаль у самым цэнтры сталіцы, стаяць нізенькія хібары простых кітайцаў. Мы нават пацікавіліся, як яны выглядаюць унутры. Уразілі сцены, абклееныя звычайнымі газетамі, земляная падлога.

Потым мы даведаліся, што кітайцы наогул не кладуць падлогу з дошак. У грамадскіх памяшканнях і кватэрах падлога пакрыта керамічнай пліткай. Кітайцы лічаць, што так больш эстэтычна і гігіенічна.

Мяне не раз сябры-кітайцы запрашалі да сябе дамоў. Іх кватэры мала чым адрозніваюцца ад нашых. Толькі вось кухні зусім маленькія – чатыры квадратныя метры. Здзіўляе тое, што ў такой цеснаце любая кітаянка за кароткі час можа згатаваць для гасцей да 20 відаў страў. Мэблі, накшталт нашай, у гарадскіх кватэрах амаль няма. Керамічная падлога заслана цыноўкамі і дыванамі. У пакоях звычайны стол, некалькі крэслаў ды ложкаў. Але ў кожнай кватэры стаяць велізарныя японскія тэлевізары, музычныя цэнтры, разнастайная сучасная бытавая тэхніка. Хатніх жывёл і птушак у кватэрах трымаць забаронена, а калі хто хоча мець сабаку ці ката – павінен плаціць падатак, памерам 3 тысячы юаняў у год. Некалькі разоў быў у кітайскіх вёсках. Там жыллё вельмі сціплае. Штогод рост насельніцтва ў краіне штучна стрымліваецца. Законам забараняецца мець у сям'і больш аднаго дзіцяці.

Гасцяваў я і ў сына Лі Пэна – 40-гадовага Лі Сяо Пэна. Яго кватэра адрозніваецца ад жылля простых кітайцаў тым, што падлога была пакрыта паркетам, абстаўлена добрай мэбляй, мелася ванна і вялікая кухня. Тым не менш, раскошы не адчувалася. Усё было проста і зручна.

Бадай, як і ва ўсім свеце, кітайцы матэрыяльна забяспечаны па-рознаму: адны ездзяць на самых апошніх мадэлях "Мэрсэдэсаў" і джыпаў, а другія – на веласіпедах.

Сярэдняя заработная плата ў пекінацаў складае ў месяц каля 300 юаняў (1 даляр США – 8,3 юаня). Трэба адзначыць, што кітайская грашовая адзінка вельмі ўстойлівая: за два гады (1996-98 г.г.) юань "упаў" толькі з 8,2 да 8,3 за адзін даляр.

Аб стабільнасці валюты сведчыць той факт, што ў любым банку Кітая ў любы час сутак і ў любой колькасці можна атрымаць валюту са свайго разліковага рахунку.

Дарэчы, сёння Кітай валодае самым буйным валютным запасам, яго фінансавае становішча, бадай, самае моцнае на ўсім азіяцкім кантыненце.

***— Ці сапраўды кітайская кухня — лепшая ў свеце?***

– Выбар страў кітайскай кухні настолькі шырокі і разнастайны, што можна заўсёды выбраць сабе па густу тое, што хочаш. Самі кітайцы жартуюць, што яны ядуць усё тое, што поўзае, лятае і варушыцца. Таму прыезджым людзям патрэбны некаторы час, каб прызвычаіцца да мясцовых страў.

Так, калі мы гасцявалі ў знаёмых пекінцаў, нас частавалі рыбнымі вокамі, якія там лічацца дэлікатэсам. Дарэчы, чым больш гаспадар паважае свайго госця, тым больш на стол ставіць страў. Вяршыняй павагі лічыцца пачастунак з 40 страў. І яшчэ адна асаблівасць кітайскай кухні – у рэстаранах альбо ў кафэ ўсе стравы рыхтуюцца на вачах кліента. У рэстаранах стаяць вялізныя акварыумы, дзе плаваюць розныя віды рыб, крабаў, ракаў, чарапах. Варта паказаць рукой, што вы жадаеце паспытаваць, як афіцыянт у лічаныя хвіліны зловіць марскую істоту і аднясе на кухню. Памятаю, як да мяне ў госці прыехалі два сыны, якіх я павёў у рэстаран і вырашыў пачаставаць іх стравай "Пяць дэлікатэсаў з жывога змея". Спачатку афіцыянт прынёс і паказаў нам жывога паўтараметровага змея. А праз пэўны час нам падалі першыя дзве стравы з яго: гарэлка з сырою крывёю змея і гарэлка з жоўцю змея. Потым прынеслі салат з яго скуры і рагу з касцей, а напрыканцы – мяса змея.

Гэты пачастунак каштаваў нам 30 даляраў і лічыцца самым дарагім, бо стравы са змея, нібыта, паляпшаюць зрок. Шмат страў гатуюць са скарпіёнаў, плаўнікоў акулы, чарапах, жаб. Амаль у кожнай краме прадаюць смажаных вераб'ёў, лічынкі вусенішаўкапрада.

***— Няўжо лічынкі і вераб'ёў есць і заможная кітайская публіка?***

– Не ведаю. Але мне пашчасціла быць разам з жонкай на ўрачыстасці, прысвечанай уз'яднанню Кітая з Ганконгам. На гэты дзяржаўны банкет было запрошана 4 тысячы чалавек. Абед даваў Лі Пэн. Уявіце сабе велізарную залу, якая за лічаныя хвіліны запаўняецца гасцямі. Без лішняй пампезнасці пасля з'яўляецца ўрадавая дэлегацыя і пачынаецца "камбэй", што ў перакладзе з кітайскай азначае "пачастунак". Было шмат віна, розных страў, музыкі, песень. Свята закончылася роўна праз паўтары гадзіны. Усіх прысутных развезлі дамоў на спецыяльных аўтобусах і аўтамабілях.

***— А як праводзяць святы і дзе адпачываюць простыя кітайцы?***

– Трэба адзначыць, што ў Кітаі бясплатных месцаў адпачынку няма. За ўсё трэба плаціць. У краіне шмат штучных вадаёмаў, якія проста кішаць рыбай. Бяры вуду ды лаві колькі хочаш. Потым тваю рыбу ўзважаць і па жаданню тут жа могуць згатаваць. Вядома, за грошы. Дарэчы, за кілаграм злоўленай фарэлі трэба заплаціць шэсць даляраў. Цікава тое, што злоўленая ў сажалцы рыба каштуе даражэй, чым яе прадае вулічны гандляр. І тым не менш, тысячы кітайцаў у выхадныя дні займаюцца рыбалоўствам. Але самы любімы занятак кітайцаў, у тым ліку і пенсіянераў, – запуск паветраных змеяў. Яны самых разнастайных канструкцый і колераў, прадаюцца на кожным рагу вуліц. А вось наведаць тэатр ці цырк могуць не ўсе – гэта вельмі дарагое задавальненне. Напрыклад, кошт білетаў у тэатр для сям'і з чатырох чалавек роўны сярэднемесячнаму заробку – 300 юаням. Акрамя таго, выхадныя дні даюць магчымасць сустрэцца мужу з жонкай, якія часта працуюць у розных гарадах краіны. Рэч у тым, што ў Кітаі пасля заканчэння вучобы мужа могуць накіраваць на працу ў адзін бок краіны, а жонку – у другі. Лічыцца нядрэнным, калі адлегласць паміж іхнімі месцамі працы не перавышае 500 кіламетраў.

***— Ваша кітайская камандзіроўка ўжо закончылася?***

– Не зусім. Чацвёрты, апошні блок станцыі павінен уступіць у эксплуатацыю ў кастрычніку гэтага года. Таму, магчыма, мне прыйдзецца прысутнічаць пры яго пуску. Акрамя таго, я павінен даць кансультацыі па яго эксплуатацыі.

***— Поспехаў Вам.***

– Дзякуй.

**Інтэрв'ю ўзяў Валянцін ЧУРЫЛА**

# ЛІПЕНЬ ПАЧАЎСЯ СА СВЯТАЎ...







**Толькі ў другой палове дня колькасць наведвальнікаў у парку прыкметна пабольшала. Дзяцей вабілі атракцыёны, марожанае і іншыя розныя прысмакі. Дарослых — моцныя напоі і шашлыкі (на здымках).**

*Працяг фотарэпартажу на 8 стр.*

# СЁННЯ САТЫРА НЕ ЎСІМ ПАДАБАЕЦЦА



**Нядаўна ў Мінску, у Доме дружбы, датэрмінова была закрыта выстава нашага земляка, графіка Алега Карповіча.**

Нагадаем, што Алег Карповіч працуе мастацкім рэдактарам газеты "Свободные новости – плюс", малюе карыкатуры. Многія яго работы прысвечаны палітычнаму жыццю Беларусі, а таксама некаторым палітыкам. Выстава, якая павінна была праходзіць на працягу тыдня, доўжылася толькі адзін дзень. Пакуль невядома, які чыноўнік аддаў загад аб яе закрыцці, адзначае газета "Имя".

**Сяргей ЁРШ**



НАША СПАДЧЫНА

# ЦІ БУДЗЕ РАССЛЕДАВАННЕ?

**Справа аб масавых забойствах жыхароў вёскі Якімавічы Слонімскага раёна ў гады нямецкай акупацыі, якія ўчынілі савецкія партызаны, у бліжэйшы час можа трапіць пад увагу міжнародных праваабарончых арганізацый.**

Яшчэ 11 траўня гэтага года Беларускі гуманітарны фонд (БГФ) "Наша Ніва" звярнуўся да генеральнага пракурора Беларусі А.Бажэлкі з просьбай расследаваць факты ваенных злачынстваў, "якія не маюць тэрміну даўніны" і "зрабіць у гэтай справе сваё афіцыйнае заключэнне". Нагадаем, што пра гэтую трагедыю "ГС" пісала ў мінулым годзе. А яшчэ раней, у сакавіку 1997 г., артыкул "Што яны выраблялі?" быў надрукаваны ў газеце "Наша Ніва", за што рэдакцыя атрымала афіцыйнае папярэджанне пракуратуры. Цяпер Беларускі гуманітарны фонд "Наша Ніва" патрабуе не толькі зняць з газеты неабгрунтаванае папярэджанне, але і афіцыйнага расследавання "якімавіцкай справы". Аднак, як стала вядома, БГФ "Наша Ніва" так і не дачакаўся рэакцыі Генеральнай пракуратуры, і таму збіраецца апэляваць да міжнароднага заканадаўства. Напрыклад, паводле статута Міжнароднага ваеннага трыбуналу 1945 года, тое, што адбывалася ў гады вайны ў вёсцы Якімавічы належыць кваліфікаваць як ваеннае злачынства, злачынства супраць чалавечнасці.

**Сяргей ЁРШ**



## ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

### Цуд прыроды

Слонімскі музей папаўняецца новымі экспанатамі. Апошнім часам у зборы музея прыбыло некалькі новых малюнкаў — партрэтаў мастакоў і паэтаў, вельмі рэдкая калекцыя беларускіх паштовых значкоў з часоў Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама рэдкі выпадак цудаў прыроды: муляж двухгаловага і шасціногага цяля.

**Новы шлях (Мінск, № 23, 27 чэрвеня 1943 г.)**

### "Паўлінка" на сцэне Беларускага Дому ў Альбярціне

Работнікі прыгарада Слоніма Альбэртына славяцца надзвычайнымі поспехамі ў галіне культурна-прасветнай працы.

Аб Альбэртынскіх гуртках: драматычным, харавым і балетным не раз пісалі ў газетах, бо ёсць за што пахваліць Альбэртынскіх працаўнікоў на ніве роднае культуры.

Няма нядзелі, няма свята, каб у Альбэртыне не адбылася нейкая культурная імпрэза. Напрыклад, у мінулую нядзелю, 1 жніўня, драматычны гуртох паставіў на сцэне "Паўлінку".

**А.В.**

**Беларускі Голас (Вільня), № 33(77), 20 жніўня 1943 г.**

УСПАМІНЫ

# ІДУ Ў ПОЛЬСКАЕ ВОЙСКА

**Анатоль ІВЕРС,**
**паэт**



У 1934 годзе я прыбыў на прызыўны пункт, які тады знаходзіўся ў слонімскім народным доме (цяпер гэта цэнтральная бібліятэка). Усё ішло гладка да таго часу, пакуль у мяне не спыталі пра "нацыянальнасць".

— Нацыянальнасць?

— Беларус.

— А-а, значыць, рускі?

— Не. Я сваю нацыянальнасць не мяняю.

Сказаў і прыгадалася недзе прачытанае, што рэлігію змяніць можна, а нацыянальнасць — немагчыма, бо яна дадзена Богам.

Паглядзеў на мяне чыноўнік, скрывіўся, нібы раскусіў кіслую ягаду. З запісам крыху памарудзіў, але ў дыскусію не ўступаў і запісаў так, як я сказаў.

У зале знаходзілася многа прызыўнікоў, якія чакалі свайго выкліку да стала. Яны заўважылі ўзнікшую замінку ля стала і насцярожыліся. Я чуў, што вясковыя хлопцы таксама не паддаваліся на правакацыю і запісваліся беларусамі.

Прыйшла восень. І цягнік павёз мяне ў Польшчу, у далёкі горад Плоцк, які стаіць на правым беразе Віслы.

Чацвёрты полк конных стралкоў, які нічым не адрозніваўся ад уланскіх палкоў, праглынуў нас, разнашэрстных юнакоў.

Мяне прызначылі ў чацвёрты эскадрон, які лічыўся школьным. Там было цяжэй, чым у звычайным эскадроне, бо апрача кавалерыйска-стралковай муштры насядалі на вайсковую вучобу, звязаную з арыентацыяй на мясцовасці. Пры звальненні "да цывіля" можна было атрымаць званне яфрэйтара, а то і капрала. Вайсковая навука мне лёгка давалася, і таму я хутка пачаў прывыкаць да новых жыццёвых абставінаў.

Аднойчы на вячэрняй паверцы, перад сном, калі сталі на смірна, дзяжурны плютоновы (узводны) раздаваў пісьмы. Прыйшоў і мне ліст з дому. Але чытаць пісьмы ўланы не мелі магчымасці, бо тут жа прагучала каманда: "За пеньць мінут вшыстко храпе!".

Ды як жа заснуць, не даведаўшыся, што там робіцца дома! Дастаўшы з канверта пісьмо, выхіліўся з ложка ўбок, каб хоць крыху злавіць электрычнае святло з калідора. Бацька пісаў прыблізна так: "В первых строках извещаю, что твоя мать уже в могиле". І далей удакладніў, што яе забіў памешчык Гадлеўскі, які ехаў на легкавушцы. Цэлую ноч не мог заснуць, моцна плакаў пад коцам (коўдрай).

Ужо дома даведаўся, што Гадлеўскі забіў яе на броўцы пры самых вербах. Казалі, што неўзабаве з'явілася паліцыя, якая, каб схаваць сляды забойства, тоўстым слоем пяску засыпала крывавае месца. Ніякага суда не было. Потым даззнаўся, што Гадлеўскі прыязджаў да бацькі, хацеў уручыць некалькі злотых у знак адшкадавання. Бацька вырваў з плота кала. Але забойца маланкава ўскочыў у машыну і ўцёк.

Крыху астыўшы ад узрушэння ў сувязі з трагічнай смерцю маці, зноў пачаў уваходзіць у нармальнае рэчышча салдацкай службы. І тут новая непрыемнасць. Выклікалі ў канцылярыю камандавання палка і паведамілі, што пераводжуся ў запасны эскадрон, які займаецца абучэннем маладых коней, што прыбываюць у полк.

Пытаюся, што за прычына майго пераводу. Адказваюць: "З пана не будзе добрага ездака". Такі адказ моцна закрануў мой салдацкі гонар. Але дзе дзенешся, бывае і горш. Праз нейкі час я ўжо стаяў перад камандзірам запаснога эскадрона маёрам Паўленашвілі. Прадставіўся.

— Будзеце абучаць коней, — сказаў пан маёр.

— Можа не змагу, бо сказалі, што з мяне не будзе добрага ездака.

— Плэвал я на политику, — выгукнуў па-расейску, але з грузінскім акцэнтам камэск, — мнэ надо обучат лошадэй.

І я "обучал". Трое коней, нібы дзікіх звяроў, утаймоўваў за дзень. Яны не даваліся сядлаць, садзіцца на іх вярхом. А як сядзеш, барані Бог зачапіць шпорай. А сапраўдны кавалерыст павінен насіць шпоры.

Найбольш небяспечны від абучэння — язда на "пшэшкоды". Пусціш каня наўгалоп на ядлоўцавы шчыт, за якім шырокі роў... Не кожны раз і не кожны конь перамахне такую перашкоду — падае ў роў. У такім выпадку трэба імгненна выхапіць са страмёнаў і расшырыць ногі, каб яны не трапілі пад каня. Колькі нашых хлопцаў ламалі ногі!

Паступова пазнаваў характар скакуноў, а яны прывыкалі (скажам так) да свайго гаспадара...

Адным разам пасля абеду кавалерысты сядлалі коней да чаргавага выезду на вучэбную пляцоўку, як прагучаў голас пасыльнога:

— Улан Міско, до довудзтва швадрону!

У канцылярыі эскадрона мне далі папку з асабістай справай і сказалі ісці ў полк. Па дарозе разгледзеў падшытыя ў папцы паперкі. Адна з іх — данос з касцянёўскага пастарунка. Запомніліся словы: "Неуфны (недаверлівы), вымага твардэй рэнкі". "Вось дзе сабака закапаны", — думаю.

У палкавой канцылярыі мне датэрмінова ўручылі ваенны білет. Бацька, застаўшыся на гаспадарцы з непаўналетнім братам, дамогся хутчэйшага майго звальнення з войска.

***(Працяг у наступных нумарах)***

# В ЛАПАХ ГЕСТАПО



**Сегодня предлагаем читателям отрывок из книги польского автора Збигнева Новаковского "Вторая мировая война 1939-45 г.г." (Краков, 1996).**

*Збигнев Новаковский родился в 1922 году в семье польского офицера. С 18 лет Новаковский принимает активное участие в подпольной деятельности Армии Краёвой. Во время немецкой оккупации судьба забросила его в Слоним, где он занимался разведывательно-диверсионной деятельностью. Потом было Варшавское восстание, лагерь Бухенвальд... После войны Новаковский окончил Горную академию и работал инженером-архитектором.*

"...В мае 1943 года немецкое командование решило строить временный полевой госпиталь в Альбертинском лесу. Сначала я там работал в столярке, а потом в бригаде электриков. Через два месяца немцы выселили нас, строителей, из старых казарм и приказали искать жилье в городе. Я поселился на квартире у пожилой учительницы Хелены Йодис. Хозяйка относилась ко мне заботливо, как родная мать. В это же время мне посчастливилось познакомиться с некоторыми слонимскими семьями: Костюхов, Лездеев, Чапковых... Это были хорошие люди, которые не раз спасали меня от неприятностей, от доносов тайных агентов гестапо и СД. Помню, ранней весной 1944 года Слоним и его окрестности буквально кишел от различных воинских формирований, а точнее сказать банд, состоящих из украинцев и кавказцев. Из их числа фашисты формировали карательные отряды, входившие в дивизии Власова и Каминского. В доме, где я жил, поселили семью казацкого атамана. Однажды я возвращаюсь с работы и на тропинке за огородами встречаю взволнованную пани Хелену. Оказалось, что дом окружен белорусской полицией, а их командир сидит на крыльце с наганом в руке. Она уговаривала меня бежать к ее сестре на другой конец города. В первый момент это решение мне показалось правильным. Однако, посидев в кустах на берегу Щары, я спокойно пошел домой. На мое приветствие гестаповец в черной форме закричал по-русски: "Кто ты и где работаешь?". Я ответил. В моей комнате непрошенный гость проверил постель, чемоданы, заглянул под кровать. Спросил, кто еще со мной живет. Ранее мы с хозяйкой договорились, что было еще два жильца, но они уехали. Об этом я ему и сказал. Было видно, что он мне не верит. Всю ночь он бодрствовал, лежа с пистолетом в руке на моей постели. В шесть утра гестаповец повел меня в комиссариат. В холле на лавках там сидели гитлеровцы. Проходя мимо, я получил дюжину "приветствий" по спине, голове. В комнату допросов, явился офицер. Он приказал встать и рассказать, за что меня арестовали, предупредив, что врать бесполезно и СД уже все известно. Я объяснил, где работаю и что уже час, как должен быть на работе. Прошу его позвонить моему начальству, так как от меня зависит электрическое обеспечение госпиталя. Фашист бросил недовольный взгляд, который стоило понимать: как смею его о чем-то просить!?

— Будешь столько здесь сидеть, сколько я захочу!

Хорошо, что я более-менее мог изъясняться по-немецки. Наконец меня повели в бюро пропусков. Там другой гитлеровец наорал на меня, что мои документы не в порядке, и он выдаст другой пропуск. Вручив бумажку, он приказал убираться и пообещал, что следующий раз я так легко не отделаюсь! В гестапо легко можно было войти, но очень редко оттуда кто выходил. Мне повезло. Позже я узнал, что гестапо наводило обо мне справки...

... В это время полевой госпиталь в Альбертинских лесах гудел, как улей. Раненых больше не принимали, транспорт с ними отправляли дальше. Первого июня 1944 года мой непосредственный начальник — сержант вермахта, таинственно прошептал, что приближаются "русские Иваны" и госпиталь эвакуируют. Он посоветовал попросить отпуск и уехать домой. 2 июня я покинул Слоним..."

**Подготовил Игорь ПОДГОРОДЕЦКИЙ**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Барсаў** Віталій Піліпавіч | 1932 г.н. |
| **Кучынская** Ніна Рыгораўна | 1939 г.н. |
| **Мартынава** Наталля Мікалаеўна | 1959 г.н. |
| **Лукашэвіч** Леакадзія Браніславаўна | 1938 г.н. |
| **Салавей** Вольга Данілаўна | 1934 г.н. |
| **Кашырына** Серафіма Міхайлаўна | 1922 г.н. |
| **Краснарадцаў** Аляксандр Сяргеевіч | 1929 г.н. |
| **Раманюк** Сяргей Канстанцінавіч | 1979 г.н. |
| **Ярыгіна** Еўдакія Палікарпаўна | 1922 г.н. |
| **Захарчанка** Дар'я Антонаўна | 1913 г.н. |



ФУТБОЛ *высшая лига*

# ТРУДНАЯ НИЧЬЯ

## Динамо-93 (Минск) — Коммунальник (Слоним) — 1:1

Вопреки всем ожиданиям и прогнозам "Динамо-93" 1 июля выставило на игру с "Коммунальником", практически, основной состав (это был прощальный матч столичной команды). Тем ценнее очко, добытое нашими футболистами в Минске.

Игра получилась трудной и жесткой. Слонимчане построили ее на контратаках. В полузащиту был поставлен Савонь, который составил очень хороший дуэт с Киреней. А в защите были на высоте Дым и Погоцкий.

В первом тайме у "Коммунальника" было несколько возможностей отличиться, но моменты эти не были реализованы. В конце тайма Шупилов удачно завершил фланговый прострел — вратарь "Динамо-93" Варивончик неудачно принял мяч, и он проскочил в ворота. Гол!

**Минск. 1 июля. Стадион "Камвольщик". 500 зрителей.**
**Судья М. Архипов (нк, Жодино)**
**Коммунальник: Киркиж, Цыбулько, В. Дегиль (Капанец, 64), А. Дегиль (к), Дым, Погоцкий, Шупилов, Киреня, Савицкий, Савонь, Татарашвили (Феоктистов, 84).**
**Голы: Шупилов (44), Журавель (57).**
**Предупреждения: Киреня, Шупилов («Коммунальник»), Ермоленко, Чалей («Динамо-93»).**
**Удаления: Киреня ("Коммунальник"), Тарловский ("Динамо-93")**
**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — Савонь, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — Шупилов.**

Во второй половине игры минчане взвинтили темп и отыграли мяч. Но большего они сделать не смогли, — не позволили слонимчане, и в первую очередь здорово сыграл Киркиж. Было несколько выходов один на один с вратарем "Динамо-93" и у наших, но не забили... Игру команды доигрывали в неполных составах — судья Архипов удалил по одному игроку соперников. У "Коммунальника" это первое удаление в этом сезоне.

По мнению специалистов футбола, "Коммунальник" в минском матче выглядел неплохо. Команда явно изменилась и стала показывать интересный футбол. "Торпедо" — следующий "экзаменатор" нашей команды — приедет из столицы 8 июля. Игра состоится в среду в 18.00.

**Сергей ЁРШ**



*Владимир Шупилов в атаке*

**ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА**

**ПОСЛЕ 14-ГО ТУРА**

| | | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 13 | 10 | 1 | 2 | 30-6 | 31 |
| 2. | Гомель | 14 | 8 | 3 | 3 | 19-11 | 27 |
| 3. | Торпедо (Минск) | 14 | 7 | 5 | 2 | 23-8 | 26 |
| 4. | Локомотив-96 (Витебск) | 14 | 7 | 4 | 3 | 18-10 | 25 |
| 5. | БАТЭ (Борисов) | 14 | 7 | 3 | 4 | 28-19 | 24 |
| 6. | Славия (Мозырь) | 14 | 7 | 3 | 4 | 18-17 | 24 |
| 7. | Белшина (Бобруйск) | 13 | 6 | 4 | 3 | 19-6 | 22 |
| 8. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 14 | 6 | 4 | 4 | 19-16 | 22 |
| 9. | Динамо (Минск) | 13 | 6 | 2 | 5 | 16-12 | 20 |
| 10. | Неман (Гродно) | 14 | 5 | 4 | 5 | 11-17 | 19 |
| 11. | Динамо-93 (Минск) | 13 | 4 | 6 | 3 | 19-15 | 18 |
| 12. | Динамо (Брест) | 14 | 5 | 1 | 8 | 17-22 | 16 |
| 13. | Шахтер (Солигорск) | 14 | 3 | 4 | 7 | 13-29 | 13 |
| 14. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 14 | 2 | 2 | 10 | 11-26 | 8 |
| 15. | Молодечно | 14 | 1 | 2 | 11 | 10-29 | 5 |
| 16. | Коммунальник (Слоним) | 14 | 0 | 4 | 10 | 6-34 | 4 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

**РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ ТУРА:**

**Торпедо — Молодечно — 1:1**
**Белшина — Неман — 0:0**
**Гомель — Нафтан-Девон — 2:0**
**Славия — Динамо Мн. — 0:0**
**Торпедо-Кадино — Днепр-Трансмаш — 0:1**
**БАТЭ — Локомотив-96 — 1:3**
**Динамо Бр. — Шахтер — 5:0**

ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

# МАСКОЎСКІЯ НАТАТКІ

**Мікола КАНАНОВІЧ**
**Слонім — Масква — Слонім**

**На мінулым тыдні супрацоўнік "Газеты Слонімскай" Мікола Кананові шэсць дзён стажыраваўся ў расійскай газеце "Новые известия". Сёння друкуем некаторыя яго ўражанні аб маскоўскай камандзіроўцы.**

Масква. Перон Беларускага вакзала. Падарожжа на цягніку закончылася. Пад словы дыспечара па-беларуску аб адыходзе чарговага цягніка на Беларусь накіроўваюся ў бок Цвярской-Ямской. З уладкаваннем у гатэлі "Мінск" пачынаюцца мае знаемствы з горадам. Але Масква – гэта асобая тэма. Мэта майго праезду – пазнаёміцца з работай рэдакцый вядучых маскоўскіх СМІ, дакладней, адной з іх. У Расійскім фондзе абароны галоснасці, які размешчаны ў будынку былога Саюза журналістаў СССР, даведаўся, што мая стажыроўка пройдзе ў газеце "Новые известия". Падчас гутаркі са сваім суразмоўцам Алегам Панфілавым непрыкметна пераходзім да тэмы асвятлення ў прэсе ўзаемадачыненняў Расіі і Беларусі. І тут Алег кладзе на стол апошнія нумары расійскіх газет "Сегодня" і "Известия", дзе на першых старонках загалоўкі "Белорусский президент преподал Западу урок демократии" і "Недвусмысленное высказывание А.Лукашенко в адрес России"... Асоба кіраўніка нашай дзяржавы даволі папулярная ў маскоўскіх журналістаў і не толькі ў іх.

Вечарам у гатэлі знаёмлюся з калегамі з гродзенскай газеты "Биржа информации", а назаўтра разам з імі пераступаю парог рэдыкцыі "Новых известий", што на Доўгарукаўскай вуліцы. Наш куратар Ігар Сінякевіч, былы ўласны карэспандэнт "Камсамолкі" на Беларусі знаёміць нас з размяшчэннем аддзелаў чатырохпавярховага асабняка рэдакцыі. Умовы працы маскоўскіх журналістаў не ідуць ні ў якое параўнанне з іх калегамі "Газеты Слонімскай" ці "Биржи информации", ды і з іншымі беларускімі незалежнымі выданнямі. Але ж і масштабы вымярэнняў розныя. Тым не менш уключаюся ў працу. Мяне цікавіць усё ж тая падача тэмы "Беларусь – Расія" у "Новых Известиях". Матэрыялаў мінімум. У нумары за 1 ліпеня знаходжу толькі паведамленне інфармацыйнага агенцтва: "Росийский МИД уличил Лукашенко в некорректности и ждет разъяснений". Праўда, у адрозненні ад іншых паведамленняў, матэрыял пададзены з фота Аляксандра Рыгоравіча. У наступным нумары, за 2 ліпеня, на першай старонцы з карыкатурай газета змяшчае матэрыял свайго ўласнага карэспандэнта з Мінска Аляксандра Старыкевіча "Белоруссия – Россия: союз под градусом", дзе аўтар напамінае чытачу пра незаконныя пастаўкі спірту з Беларусі ў Расію. Адносіны дзяржаў падаюцца газетай на ўзроўні асобы прэзідэнта. Становіцца сумна.

Тым часам рэпарцёр з гродзенскай "Биржи информации" Анджэй робіць інтэрв'ю з аглядальнікам "Новых Известий" Отта Лацісам, дзе гаворка зноў ідзе пра беларускага прэзідэнта, з якім Отта Рудольфавіч неаднойчы сустракаўся. Што і казаць – і нашы, і расійскія журналісты "любяць" Аляксандра Рыгоравіча. А што ж рускі народ? Каб даведацца пра стаўленне яго да прэзідэнта Беларусі, аднойчы вечарам пайшлі на задворкі расійскага Дома ўрада, да Гарбатага маста, дзе ўсё яшчэ сядзяць шахцёры з патрабаваннем выплаты зарплаты, адстаўкі Ельцына.

Шахцёры ахвотна ідуць на кантакт з беларускімі журналістамі. Нічога не маюць супраць і маскоўскія міліцыянты, якія там дзяжурылі. Асноўнае з іх размовы з шахцёрамі можна акрэсліць так: "Усіх нашых бандытаў – расстраляць. Ваш прэзідэнт – змагар за справядлівасць, абаронца пакрыўджаных і абяздоленых. Ён бы тут парадак навёў..."

Старая, да прыкрасці знаёмая славянская песня пра добрага цара. І як пераконваюся, папулярнасць Аляксандра Лукашэнкі ў гэтым кантэксце відавочная. Пэўнай частцы народы, як рускага, так і беларускага, яшчэ цяжка ўсвядоміць, што час цароў даўно мінуў, ды і добрымі яны ніколі не былі. А гонар і годнасць народ спрадвеку захоўваў, бярог насуперак розным рэжымам.

Калегі з "Биржи информации" паспелі ўзяць інтэрв'ю ў Віктара Анпілава і Эдуарда Лімонава. Мяне ж гэтыя кандыдаты ў "царкі" чамусьці не цікавілі.

ГОРАД *нашы таленты*

# Мастак Яўген Іваноў



**Чытачы нашай газеты даўно заўважылі малюнкі алоўкамі і тушшу, якімі з першага нумара аздабляе старонкі "ГС" слонімскі мастак Яўген Іваноў. Хацелася б трохі расказаць пра гэтага таленавітага чалавека.**

Яўген — карэнны слонімец. Тут закончыў школу, потым Мінскае мастацкае вучылішча і мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута.

Першымі яго настаўнікамі былі родны дзядзька Уладзімір Саліта, мастакі-графікі Юрый Выхадцаў і Альгерд Малішэўскі. Яны навучылі Яўгена разумець мастацтва, прыгажосць фарбаў і колеру. Вышэйшая адукацыя і такое кола настаўнікаў дазволілі яму прайсці праз добрую мастацкую школу. Ды нават далёкія продкі ў Яўгена Іванова былі мастакамі. Прапрадзед Луско, напрыклад, у свой час распісваў касцёлы ў Варшаве.

Цяпер наш зямляк працуе кіраўніком студыі выяўленчага мастацтва ў цэнтры дзіцячай і юнацкай творчасці. Мае ўжо сваіх падрыхтаваных вучняў, некаторыя з іх вучацца ў мастацкіх вучылішчах і ВНУ Беларусі. Яго карціны выстаўляліся ў слонімскім музеі, РДК, у выставачнай зале Саюза мастакоў Беларусі, а таксама знаходзяцца ў асабістых калекцыях Германіі, Ізраіля, Польшчы і ЗША.

Неяк я запытаўся ў Яўгена Іванова пра ягоную мару, мастак адразу адзначыў, што хоча, каб "хутчэй стабілізавалася эканоміка Беларусі, каб здаровай была сям'я і ўсе слонімцы". Гэтага мы жадаем і яму.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

